Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 200.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 8 снежня 1998 г. № 132 (524) Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Плошча не пустуе

**Сёння і заўтра на плошчы Якуба Коласа ў Мінску пройдуць дзве акцыі.**

8 снежня Мінгарвыканкам дазволіў Свабоднаму прафсаюзу правесці тут мітынг з 16:30 да 18:00. 9 снежня Народны Фронт ладзіць на плошчы пікет, на які плануецца сабраць да 300 удзельнікаў. З 15:00 да 17:00 актывісты БНФ будуць пратэставаць супраць планаў па аб'яднанні Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

### Барысу ў Маскве не сядзіцца

**Учора ў Мінску з аднадзённым візітам знаходзіўся выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі.**

Ягоны прыезд быў прымеркаваны да 7-ай гадавіны ўтварэння Садружнасці, якая адзначаецца 8 снежня. З гэтай нагоды Беразоўскі правёў урачыстае пасяджэнне супрацоўнікаў апарату штаб-кватэры СНД.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### «Маладая Беларусь» аб'ядналася

**Дэмакратычная моладзь аб'ядналася ў рух «Маладая Беларусь».**

У Беларусі створаны маладзёжны рух «Маладая Беларусь». Пра гэта 4 снежня на сумеснай прэс-канферэнцыі абвясцілі лідэры «Маладой Грамады», «Грамадзянскага форуму» і «Маладога фронту».

Па словах удзельнікаў прэс-канферэнцыі, аб'яднанне дэмакратычнай моладзі стала адказам на стварэнне Беларускага народна-патрыятычнага саюза і спробай прадэманстраваць палітыкам старэйшага пакалення, што маладзёжныя арганізацыі, у адрозненне ад іх, «здольныя адступіць ад карпаратыўных інтарэсаў і ўласных амбіцыяў» і аб'яднацца для дасягнення адзінай мэты. У выпадку правядзення ў Беларусі дэмакратычных выбараў прадстаўнікі руху будуць выступаць на іх адзіным блокам.

*БелаПАН*

*Прэзідэнт Лукашэнка прадставіў новага шэфа МЗС*

# Адзін замест трох



*Урал Латыпаў забраў партфелі трох міністраў.*



**У**ЧОРА прэзідэнт Лукашэнка асабіста прадставіў у міністэрстве замежных справаў новага міністра Урала Латыпава. Партфель для Латыпава каштаваў трох міністэрскіх пасадаў — Івана Антановіча, Міхаіла Марыніча і Валянціна Вялічкі. Паказальна, што ні Антановіч, ні Марыніч на прэзентацыю новага кіраўніка знешнепалітычнага ведамства не прыйшлі. Абодва яны раптоўна захварэлі і карысталіся ў гэты час паслугамі лечкамісіі.

Хто ж прыйшоў на змену тром? 47-гадовы Урал Латыпаў ураджэнец Башкірыі, да апошняга часу працаваў памочнікам прэзідэнта. Ён дапамагаў *«прымаць і рэалізоўваць рашэнні ў галіне знешняй палітыкі»*. Латыпаў працуе ў прэзідэнцкай камандзе з 1994 года. Службовая кар'ера новага міністра вельмі паказальная. Асноўную частку жыцця ён прысвяціў службе ў КДБ. Апошняя пасада, якую ён займаў у гэтым ведамстве, — намеснік начальніка Інстытута нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. На пенсію ён пайшоў у званні палкоўніка. Новы міністр, як і папярэдні, з'яўляецца прафесарам, валодае англійскай і французскай мовамі.

Іван Антановіч верна і заўзята адслужыў «бацьку» амаль два гады. Усе свае арганізатарскія здольнасці прыклаў на прарыў міжнароднай ізаляцыі. 60-гадовы І.Антановіч скончыў аспірантуру АН БССР, працаваў у сакратарыяце беларускага прадстаўніцтва ў ААН, а пазней — у нашым прадстаўніцтве пры ЮНЕСКА. Пасля дыпламатычнай распачалася партыйная кар'ера. Ад загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч «дарос» да сакратара Расійскай кампартыі на чале з Іванам Палазковым. З 1995 года Антановіч спачатку працаваў намеснікам міністра замежных справаў, а потым змяніў Уладзіміра Сянько.

Цяпер у знешнепалітычнае ведамства замест кіраўніка з партыйным мінулым прыслалі былога прафесійнага чэкіста. Іванавіча адным махам памянялі на Рамдракавіча. На прадстаўленні новага міністра прэзідэнт Лукашэнка ўзгадаў пра адстаўленага Івана Антановіча. Па яго словах, экс-міністра рана адпраўляць на пенсію і для яго падбяруць добрае месца. Урал Латыпаў ужо заняў кабінет І.Антановіча.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### Рэферэндум у Мінску

**Маладзёжны рух «Маладая Беларусь» мае намер ініцыіраваць правядзенне ў Мінску мясцовага рэферэндуму.**

Рэферэндум павінен даць адказ на тры пытанні: ці хочуць жыхары Мінска самастойна выбіраць старшыню Мінгарвыканкама, ці падтрымліваюць яны ідэю будаўніцтва АЭС паблізу сталіцы і аднаўленне дзейнасці раённых Саветаў дэпутатаў.

Каб ініцыіраваць мясцовы рэферэндум, членам ініцыятыўнай групы, у якую ўваходзяць каля ста чалавек, неабходна на працягу двух месяцаў з дня яе рэгістрацыі сабраць 125 тысяч подпісаў. Лідэры руху разумеюць, што гэта не па сілах адной арганізацыі, і спадзяюцца на дапамогу прафсаюзных і іншых гарадскіх грамадскіх рухаў. Зараз дакументы ініцыятыўнай групы знаходзяцца ў Мінгарвыканкаме, адкуль на працягу месяца павінен прыйсці адказ.

*БелаПАН*

**Падпісная кампанія на 1999 год завяршаецца 15 снежня.**

*Юбілей Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека*

# Адзначылі арыштамі

**Актывісты Народнага Фронту правялі ў нядзелю, у цэнтры Мінска несанкцыяваны мітынг, прысвечаны 50-ай гадавіне прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека. Пасля яго заканчэння міліцыя затрымала больш за 10 удзельнікаў акцыі.**

Гарадскія ўлады не дазволілі арганізатарам праваабарончага мітынгу Юрыю Хадыку і Алесю Бяляцкаму праводзіць яго на Кастрычніцкай плошчы. Узамен гарвыканкам прапанаваў апазіцыянерам сабрацца на пляцоўцы каля Опернага тэатра. Каб пазбегнуць і ў далейшым падобных патрабаванняў апазіцыі, мінскія чыноўнікі ў пажарным парадку надалі Кастрычніцкай плошчы асаблівы статус. Гэта значыць, што цяпер там дазволена праводзіць толькі афіцыйныя мерапрыемствы з нагоды дзяржаўных святаў.

Тым не менш, днём, 6 снежня, на Кастрычніцкай плошчы пад праваабарончымі лозунгамі і нацыянальнымі сцягамі сабралася каля 300 апазіцыйна настроеных грамадзянаў. У прылеглыя да плошчы двары былі сцягнутыя немалыя міліцэйскія сілы, але гвалтоўных дзеянняў супраць дэманстрантаў падчас мітынгу яны не прадпрымалі. Удзельнікаў акцыі толькі актыўна здымалі на відэа міліцэйскія спецапаратары, а з дынамікаў машыны пастаянна несліся заклікі «спыніць несанкцыяваную акцыю». Відаць, каб перашкодзіць прыбыццю на плошчу іншых удзельнікаў мітынгу, міліцыянты зачынілі выхады са станцыяў метро «Кастрычніцкая» і «Купалаўская».

Арганізатарам мітынгу намесніку старшыні БНФ Юрыю Хадыку, кіраўніку праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесю Бяляцкаму, а таксама лідэру «Народнай Грамады» Міколе Статкевічу і дэпутату ВС Валерыю Шчукіну прама на плошчы ахоўнікі парадку ўручылі павесткі ў міліцэйскі пастарунак. Аднак, мітынг усё ж такі адбыўся. Запрашэнне ўзяць у ім удзел арганізатары накіравалі і Аляксандру Лукашэнку, але ён не прыйшоў. Алесь Бяляцкі параўнаў стаўленне цяперашніх беларускіх уладаў да выканання правоў чалавека з паводзінамі дэлегацыі БССР, якая ў 1948 г. устрымалася пры галасаванні за Усеагульную дэкларацыю.

Па словах А.Бяляцкага, у 1998 г. за ўдзел у акцыях апазіцыі было арыштавана і аштрафавана больш за 500 чалавек, а з 1996 года — некалькі тысяч. У турме сядзяць дэпутаты ВС Андрэй Клімаў і Уладзімір Кудзінаў, актывіст БНФ з Віцебска Уладзімір Плешчанка і маладафронтавец Аляксей Шыдлоўскі. Нямала апазіцыянераў адбывае ўмоўныя пакаранні. У гэтым годзе прайшлі тры суды над студэнтамі за палітычныя графіці, а больш сотні грамадзянаў Беларусі ўжо папрасілі палітычнага прытулку за мяжою.

Напрыканцы мітынгу яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой адзначаецца, што *«ва ўмовах глыбокага эканамічнага крызісу і ўседазволенасці кіруючы рэжым практычна падрыхтаваўся да ўвядзення ў краіне надзвычайнага становішча»*. Удзельнікі мітынгу лічаць, што ў такіх варунках будучыя выбары не могуць адбыцца цывілізавана, і заклікаюць сусветную грамадскасць аказаць беларускаму народу дапамогу ў барацьбе за *«свабоду, дэмакратыю і правы чалавека»*.



*На здымку (справа): старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесь Бяляцкі.*

Мітынг скончыўся, і ў горадзе пачацся міліцэйскі хапун. Апазіцыянераў, сярод якіх былі і непаўналетнія, затрымлівалі на прыпынках грамадскага транспарту, каля крамаў і ў іншых месцах. Да позняга вечара брытагаловыя малойцы ў скуранках трымалі аблогу штаб-кватэры БНФ. Многіх людзей, што выходзілі з фронтаўскай управы, яны хапалі, саджалі ў машыны з таніраваным шклом і адвозілі ў пастарунак. Такім чынам былі затрыманыя дэпутат ВС Людміла Гразнова, Ядзвіга Лабковіч, Леанарда Мухіна і іншыя жанчыны. Глыбокай ноччу «ахоўнікі парадку» ламіліся ў кватэры Юрыя Хадыкі, Алеся Бяляцкага і іншых арганізатараў мітынгу.

Учора раніцай, па нашых звестках, у Цэнтральным райсудзе Мінска пачаліся працэсы над затрыманымі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Мітынг прайшоў без Лукашэнкі

**У мінулую суботу ў Гродне адбыўся чатырохтысячны мітынг, арганізаваны мясцовымі прафсаюзнымі і грамадскімі арганізацыямі.**

Аляксандру Лукашэнку была накіраваная тэлеграма з запрашэннем выступіць са справаздачаю на тым самым месцы, дзе ён раздаваў гродзенцам абяцанкі ў прэзідэнцкую кампанію. Аднак ён не прыехаў, хаця ў тэлеграме абяцалася аплаціць яму дарогу ў два канцы ў купэйным вагоне. Не прыйшлі на мітынг і афіцыйна запрошаныя старшыні аблвыканкама А.Дубко і гарвыканкама А.Пашкевіч, што выклікала негатыўную рэакцыю гараджанаў.

Адкрыў мітынг старшыня прафкама завода аўтаагрэгатаў А.Хацько, які абмаляваў цяжкае становішча рабочых, якім даводзіцца працаваць у халодных цэхах на старым абсталяванні. Прадстаўнік ветэранскай арганізацыі Л.Закурдаеў сказаў, што беларусы, папытаўшыся на месцы пасля распаду СССР, пайшлі шукаць шчасця ў мінулым, і ўсё вярнулася — дэфіцыт прадуктаў, нізкія зарплаты, чэргі.

Выступілі таксама шафёр тралейбуса, рабочы тонкасуконнага камбіната, прафсаюзны актывіст В.Леванеўскі і вядомы гродзенскі апазіцыянер С.Домаш. Ён, у прыватнасці, сказаў, што прычына пагаршэння жыцця народа ў тым, што *«існуючая сістэма ўлады неэфектыўная, падаўляе ініцыятыву людзей, жаданне добра працаваць, прыніжае і абражае іхнюю годнасць»*, у тым ліку нацыянальную свядомасць. Ён таксама сказаў, што прэзідэнта і ягоную каманду павінны замяніць іншыя людзі, якія пабудуюць дэмакратычную дзяржаву, дзе грамадзянам будзе забяспечаны годны ўзровень жыцця.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой патрабуецца з пачатку наступнага года забяспечыць узровень заробкаў і пенсіяў — не менш як 100 долараў у месяц. Яны запатрабавалі таксама напалову скараціць выдаткі на ўтрыманне чынавенства, сілавых ведамстваў і кантрольных службаў; даць справаздачу пра выкарыстанне закрытых пазабюджэтных фондаў і ліквідаваць іх; забяспечыць канстытуцыйнае права свабоднага доступу да сродкаў масавай інфармацыі, прадаставіць эфір на тэлебачанні і радыё прадстаўнікам прафсаюзаў, грамадскіх і палітычных арганізацыяў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Суперсекретный спецназ

**Российские СМИ сообщают о создании в белорусском МВД отдела разведки и собственной безопасности (ОРСБ).**

По словам командира отряда Д.Павлюченко, ОРСБ является подразделением, предназначенным *«для борьбы с террористами и наркодельцами в условиях лесисто-болотистой местности»*. Именно это, по мнению командира, отличает отряд от милицейской спецгруппы «Алмаз» и отряда КГБ «Альфа», которые специализируются на *«ликвидации террористов в условиях города, на транспорте и в местах лишения свободы»*. Майор считает, что *«спецназовцы не имели и не имеют отношения к разгонам массовых демонстраций оппозиции и мерам устрашения в отношении их лидеров. Если, конечно, нас не втянут в это дело»*.

По сведениям московской газеты «Сегодня», недавно отряд спешно покинул Минск и перебазировался в леса Витебской области. Объяснить причину этого командир так и не смог. Однако, не исключено, что размещение ОРСБ в Докшицком районе связано с обеспечением безопасности находящейся поблизости летней резиденции А.Лукашенко в Березинском заповеднике.

**С.Н.**

# Станіслаў Шушкевіч аднаўляе Грамаду

*І агітуе моладзь ехаць за мяжу*

**У Гродне нядаўна была адноўленая партыйная арганізацыя (БСДГ), у складзе якой сёння 30 чалавек. У канцы мінулага тыдня грамадоўцы правялі сход, на які прыехаў Станіслаў Шушкевіч.**

Ён сказаў, што гродзенская філія сярод абласных цэнтраў — найлепш арганізаваная і найбольш актыўная. Апошнім часам паляпшаецца сітуацыя ў Гомелі. С.Шушкевіч гаворыць, што яны гатовыя ствараць свае філіі дзе толькі магчыма, але гнацца за лічбамі не збіраюцца. Галоўнае — знайсці надзейных людзей, якія змогуць дзейнічаць актыўна, *«але не рэвалюцыянераў»*.

Ствараць філіі ў райцэнтрах вельмі цяжка. Напрыклад, у Гродзенскай вобласці моцная суполка БСДГ пакуль ёсць толькі ў Дзятлаве. Кадры ў БСДГ вельмі добрыя, адукаваныя, зазначыў С.Шушкевіч. Аднак не спраўдзіліся спадзяванні кіраўніцтва адносна сацыяльнай групы, на якую яно збіралася абапірацца. Маецца на ўвазе сельскае настаўніцтва. Настаўнікі ў вясковых школах — гэта застрашаныя людзі, канстатаваў ён. Часам ва ўсім раёне ўдаецца знайсці толькі аднаго прыхільніка, які не баіцца пераследу з боку ўладаў.

Вельмі добра адгукнуўся кіраўнік партыі і аб дзейнасці «Маладой Грамады», аб яе міжнародных сувязях. С.Шушкевіч зазначыў важнасць замежных паездак і асабліва вучобы там нашай моладзі. Нам трэба, каб з чвэрць мільёна маладых людзей змаглі пазнаёміцца з тым, як у іншых краінах могуць разумна ўладкаваць жыццё. Справа ў тым, што ў часы «Салідарнасці» ў Польшчы мільён маладых палякаў атрымалі адукацыю за мяжой. Не абавязкова універсітэцкую, яны вучыліся на розных курсах або ў летніх студэнцкіх школах.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**




*Минимальная зарплата в 100 долларов*

# Это реально или нет?

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Требование повысить минимальную заработную плату до 100 долларов, выдвинутое Свободными профсоюзами, вызывает ряд вопросов.

Во-первых, много это или мало? Во-вторых, реально это или нет? Правительство, директорат и прочие солидарные с ними лица, например, категорически отвечают: это много и нереально. И вообще, дескать, чтобы больше получать, надо лучше работать.

С этим аргументом трудно спорить, но лучше работать, очевидно, должны не только рабочие, но и руководители всех степеней и рангов. Ведь именно они должны создать условия, при которых экономика могла бы развиваться на самом деле, а не только в статистических отчетах. В этом случае росли бы и реальные доходы населения. Пока же растут только потребительские цены.

В других странах, где властью распоряжаются люди более компетентные и ответственные, ситуация принципиально иная. В Литве, например, инфляция в октябре составила 0,4 процента, в августе и сентябре, в связи с массовым поступлением на рынки овощей и фруктов, отмечено даже сезонное снижение цен. Дело в том, что лит, денежная единица Литвы, «привязан» к американскому доллару, и в обращение новые деньги поступают только тогда, когда в стране сделан соответствующий валютный запас. Поэтому установленное в 1994 году соотношение 1 доллар — 4 лита остается неизменным по сей день. Примерно такая же ситуация в Латвии и Эстонии, но денежные единицы этих стран «привязаны» не к доллару, как в Литве, а к немецкой марке.

Политика заработной платы в этих странах тоже принципиально отличается от нашей. Здесь считают, что работник работает для того, чтобы жить. Поэтому ни один работодатель не имеет права платить любому работнику независимо от его квалификации зарплату меньшую, чем это необходимо для удовлетворения самых насущных его нужд. Если же фирма не может выполнить это требование, то ее и не должно быть: как говорится, не можешь, не мучайся сам и не мучай других.

В Литве минимальная зарплата равняется 108, в Эстонии — 81 и в Латвии — 72 американским долларам. Среднемесячная зарплата в этих странах колеблется от 220 до 300 долларов, причем в Литве меньше всех в сентябре получили лица наемного труда в полеводстве — 131 доллар (для сравнения — в сентябре средняя зарплата у наших колхозников не достигла 20 долларов по реальному курсу).

Вот и получается, что наше государство никак не защищает интересы наемного труда, позволяя работодателю покупать рабочую силу по демпинговым ценам.

В советские времена Беларусь лишь немного уступала прибалтам по такому показателю, как уровень денежных доходов на душу населения. Если взять, например, структуру потребительских расходов средней литовской семьи, то она тратит на свои продовольственные нужды менее половины своего бюджета, примерно на 5% больше, чем в среднем по Союзу в конце 80-х годов. У нас же на пропитание средняя семья тратит около 80% того, что зарабатывает. По данным опроса, проведенного среди работников радиоэлектронной промышленности отраслевым профсоюзом, у 33,9% опрошенных средств не хватает даже на самые дешевые продукты, а еще 62,7% работают только на питание.

Дальше, как говорится, некуда.

# Чыгір запісаўся ў кандыдаты

**Былы прэм'ер-міністр беларускага ўрада Міхаіл Чыгір заявіў, што будзе ўдзельнічаць у чарговых прэзідэнцкіх выбарах у якасці прэтэндэнта на пасаду кіраўніка дзяржавы.**

Пра гэта ён паведаміў у інтэрв'ю, якое апублікавана 5 снежня гэтага года адначасова ў двух незалежных выданнях — газеце «Народная воля» і штотыднёвіку «Свободные новости».

Міхаіл Чыгір узначальваў урад краіны на працягу двух гадоў, падаўшы ў адстаўку ў лістападзе 1996 года ў знак нязгоды з палітыкай прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Па словах М.Чыгіра, калі ён пакідаў пасаду кіраўніка кабінета міністраў, у рэзервах краіны заставалася каля 200 мільёнаў долараў. *«Гэтых грошай хапіла, каб амаль два гады ствараць бачнасць дабрабыту. Валюта прадавалася, і за кошт гэтага ўдавалася падтрымліваць рынак у больш-менш стабільным стане»*, — сцвярджае былы кіраўнік кабінета. Сёння ж, па яго словах, валютныя рэзервы дзяржавы — *«на нулі, а часам нават і ў мінусе»*.

Пры працягу такой палітыкі, лічыць Міхаіл Чыгір, ужо ў першым квартале будучага года пацерпіць крах бюджэт рэспублікі, прыйдзе гіперінфляцыя, прылаўкі апусцеюць, «як у часы агоніі Савецкага Саюза».



Цяперашняя ўлада абавязана аб'явіць прэзідэнцкія выбары і правесці іх цывілізавана, перакананы М.Чыгір, які цвёрды вырашыў удзельнічаць у будучых выбарах кіраўніка дзяржавы. *«Я ведаю, што і як трэба зрабіць, каб спыніць развал краіны, спыніць масавае збядненне народа»*, — упэўнены палітык.

*БелаПАН*

# Журналіста завялі ў міліцыю

**У Навагрудку адбылося скандальнае здарэнне са спецыяльным карэспандэнтам польскага тэлебачання Вальдэмарам Мілевічам.**

Разам са старшынёй Саюза палякаў Тадэвушам Гавіным яны прыехалі ў Навагрудак у мінулы чацвер. Мэтай журналіста было падрыхтаваць рэпартаж аб праблемах польскамоўнай адукацыі. Паразмаўляўшы з мясцовымі палякамі, ён вырашыў, што лагічна будзе даць слова і мясцовым уладам. Аднак старшыня райвыканкама Анатоль Ліс адмовіўся іх прыняць. Госці вырашылі пачакаць яго ў прыёмнай. Але ў выканкаме паявіліся тры міліцыянты і прапанавалі В.Мілевічу і Т.Гавіну праследаваць з імі ў РАУС. Яны адмовіліся. Праз хвілінаў 20 міліцыянты вярнуліся і заявілі, што арыштуюць іх. Давялося падпарадкавацца. Разбіральніцтва адбывалася ў будынку міліцыі каля гадзіны. У польскага журналіста спраўдзілі наяўнасць акрэдытацыі і рэгістрацыі ў гатэлі.

Афіцэр міліцыі вымушаны быў тлумачыць, што ў А.Ліса непрыёмны дзень і ён не мог іх прыняць. «А навошта было выклікаць міліцыю?» — пацікавіліся затрыманыя. Прабачце, адказаў міліцыянт, але мы падначальваемся старшыні райвыканкама і павінны выконваць ягоныя каманды.

У той жа вечар навагрудскі сюжэт быў паказаны ў галоўным выпуску навінаў першай праграмы польскага тэлебачання.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# В Швейцарии хватают всех подряд?

**Бывший премьер Украины Павел Лазаренко *(на снимке)* арестован в Швейцарии. Его задержали в прошлую среду по запросу женевской прокуратуры, которая, в свою очередь, действовала по просьбе своих украинских коллег.**

Генеральная прокуратура Украины с февраля 1997 года направила швейцарским правоохранительным органам 20 запросов об оказании юридической помощи по делу Лазаренко, а также его заместителя по партии «Громада» Николая Агафонова и ряда других лиц. В частности, Лазаренко обвиняется в том, что он похитил и перевел при посредничестве днепропетровской фирмы Агафонова «Наукова» на счета в Швейцарии 20 млн. долларов.



В начале ноября цюрихская газета «Нойе цюрхер цайтунг» сообщила, что в швейцарских банках заморожены счета Лазаренко, Агафонова и других лиц на сумму около 40 миллионов долларов. Однако официально это не было подтверждено, и, весьма вероятно, Лазаренко ехал в Швейцарию, чтобы успеть распорядиться деньгами.

В течение четырех месяцев в Берне находилась группа работников украинской генпрокуратуры, которая, по сведениям из осведомленных кругов, работала над этим делом с швейцарскими властями, в частности, по вопросу о возможном нарушении Лазаренко и компанией швейцарских законов.

Задержание Лазаренко подтверждает, что эта работа не прошла даром. В самом деле, вряд ли речь может идти о выдаче бывшего премьера украинским властям, поскольку на родине он защищен депутатской неприкосновенностью. Если же правоохранительным органам в Киеве удалось обнаружить доказательства отмывания денег, бывшего премьера ждут в Швейцарии большие неприятности, ибо это преступление карается в Альпийской республике весьма сурово.

Как отмечают обозреватели, то, что случилось с Лазаренко, похоже на историю лидера московской «солнцевской» группировки Вячеслава Михайлова, которого сейчас судят в Женеве. Российские правоохранительные органы ничего не смогли поделать с преступным авторитетом на родине, переporучив его заботам швейцарского правосудия. С Павлом Лазаренко, впрочем, все обстоит сложнее. Он занимал пост главы правительства с мая 1996 по июль 1997 года, после чего был уволен указом президента Леонида Кучмы. В Киеве многие считают, что смещение Лазаренко было связано с его возросшей финансовой и политической независимостью, которую он умело наращивал, используя свой пост. Говорили, что значительную часть своего состояния Лазаренко получил благодаря махинациям на украинском газовом рынке.

Сразу после увольнения Лазаренко возглавил оппозиционную партию «Громада», впоследствии ставшую одной из наиболее мощных антипрезидентских политических организаций на Украине. На парламентских выборах этой весной партия Лазаренко завоевала более 40 мест в Верховной Раде. И на предстоящих президентских выборах Лазаренко, вероятно, стал бы одним из основных конкурентов Кучмы. Возможный судебный процесс и приговор в Швейцарии ставит на политических планах экс-премьера жирный крест.

*По материалам газеты «Сегодня»*

# В «саркофаге» оживает цепная реакция

Возможность возникновения цепной реакции в «саркофаге» над разрушенным аварией 4-м энергоблоком Чернобыльской АЭС *«реально существует»*, считает начальник объекта Валентин Купный.

Отвечая на вопрос об инцидентах, когда приборы фиксировали увеличение плотности нейтронного потока, В.Купный сказал, что не знает, происходила ли при этом цепная реакция. *«И никто не знает»,* — добавил он. Сейчас отсутствует точная информация о ситуации в «саркофаге», отметил начальник объекта.

По его словам, разрушение топливосодержащих масс в «Укрытии» приводит к увеличению количества пыли, следовательно, к увеличению подвижности радиоактивных веществ. *«Сейчас однозначной оценки инцидентов нет. После аварии на Чернобыльской АЭС в 1986 году в разрушенном энергоблоке осталось около 180—200 тонн топлива»,* — сказал он.



*Так выглядит «саркофаг» над 4-м энергоблоком Чернобыльской АЭС.*

В.Купный сообщил, что завершен монтаж и начаты пусконаладочные работы на восьми каналах контроля за топливом на объекте «Укрытие». Основным отличием нового оборудования является то, что системы прошли международную аттестацию. Каналы будут проводить мониторинг гамма-излучения, нейтронного потока и температурного режима в объекте «Укрытие».

**З.Н.**

# Пенсионеры мирового значения

## Экс-президентов США охраняют на 500 тысяч долларов в год

Пенсии ныне живущих экспрезидентов США Рональда Рейгана, Джимма Картера, Джеральда Форда и Джорджа Буша равны окладам министров американского правительства. В распоряжении экс-президентов — персонал (от секретарей до уборщиц), который они подбирают по своему усмотрению, ограничиваясь только суммой, которая идет сотрудникам на зарплату, — 8 тыс. долларов в месяц.

Затраты на охрану экспрезидента и членов его семьи проходят отдельной статьей: на это ежегодно выделяется 500 тыс. долларов. Федеральный бюджет также оплачивает бывшим президентам офис со всем необходимым оборудованием — но при условии, что этот офис расположен на территории США.

Закон об обеспечении экспрезидентов офисом и персоналом был принят в 1955 году, после того как бывший хозяин Белого дома Гарри Трумэн пожаловался Конгрессу, что у него уходит в год около 30 тыс. долларов на корреспонденцию, написание речей и т. д.

В случае смерти экс-президента его вдова получает от министерства финансов 20 тыс. долларов в год, но только если отказывается от собственной пенсии. Кроме того, она пожизненно обеспечивается охраной, но может лишиться и ее, если снова выйдет замуж. Дети экс-президента обеспечиваются охраной до совершеннолетия.

Впрочем, если президент уходит в отставку досрочно, он лишается пенсии и других привилегий. Так случилось с Ричардом Никсоном, вынужденным покинуть Белый дом из-за угрозы импичмента в связи с уотергейтским скандалом. Никсон после этого испытывал большие финансовые проблемы и был вынужден зарабатывать на жизнь собственным трудом. Он писал мемуары (за которые получил в общей сложности 2,5 млн. *USD*), продал два своих дома, охотно давал платные интервью.

### Жискар д'Эстен живет на два дома

Экс-президент Франции Валери Жискар д'Эстен не оставляет государственной деятельности: он не только заседает в Конституционном совете республики (как и полагается бывшему главе государства по закону), но и председательствует в законодательном совете провинции Овернь. А деньги — 70 тыс. франков (около 14 тыс. долларов) в месяц — получает из госбюджета. Половину этой суммы составляет собственно пенсия, другая половина — оклад члена Конституционного совета.

Основную часть своего времени д'Эстен проводит в городе Клермон-Ферран (Овернь), где в его распоряжении госжилье, госмашина и персонал — шофер, телохранитель и секретарша. В Париже у него другая машина с водителем и еще одна секретарша, живущая в оплачиваемой государством квартире.

### В Японии могут и посадить

Действующий премьер-министр Японии имеет зарплату в размере 20 млн.иен (около 180 тыс. долларов) в год, официальную резиденцию в центре Токио и автомобиль. После ухода в отставку за ним сохраняется зарплата депутата парламента и пенсия, размеры которой не разглашаются. Что касается каких-либо политических гарантий, то они обеспечиваются стабильной демократической системой Японии.

Однако, как и в других развитых странах, ни депутатский мандат, ни должность премьера не освобождают от ответственности за совершение преступлений. Пример тому — судьба премьер-министра Какуэя Танаки. В связи с делом о взятках от американской авиационной фирмы *Lockheed* он был вынужден уйти в отставку, предстал перед судом, был приговорен к крупному денежному штрафу и тюремному заключению. Танака отсидел лишь небольшую часть срока и был выпущен по состоянию здоровья.

**Алексей СБОРОВ**

# Россия платила Горбачеву 2 доллара

**В конце 1991 года семь глав государств СНГ подписали документ, дающий пожизненные гарантии потерявшему власть Михаилу Горбачеву. Тогда эти гарантии обеспечивали ему жизнь, вполне достойную экс-президента. За семь последующих лет Горбачев постепенно этих благ лишался.**

21 декабря 1991 года главы государств СНГ — Борис Ельцин, Нурсултан Назарбаев, Станислав Шушкевич, Леонид Кравчук, Ислам Каримов, Сапармурат Ниязов и Аскар Акаев — подписали в Белоруссии совместный документ о пожизненных гарантиях экс-президенту СССР. Сам Горбачев узнал о нем 23 декабря 1991 года от Ельцина, когда передавал ему в Кремле дела. В этом документе не было ни слова о гарантиях неприкосновенности самому Горбачеву и его семье. Но пенсия, дача, машина и охрана до конца жизни обещались.

Пенсия равнялась президентскому окладу Горбачева — 4 тысячи рублей. Сумма по тем временам вполне приличная. С «пожалованной» государством дачей — в 14 километрах от Москвы — Михаил Горбачев был знаком, здесь он жил, еще когда был рядовым секретарем ЦК КПСС. Кстати, сейчас, живя на этой даче, он стал соседом Валентина Юмашева. Вместе с дачей Горбачеву полагался и обслуживающий персонал — повар, горничная и сестра-хозяйка. Экс-президенту также выделялось 17 человек охраны и автомобиль «ЗИЛ» со спецсвязью.

Встреча Горбачева и Ельцина 23 декабря была последней — больше они никогда не общались. Даже «ядерный чемоданчик» — символ нынешней власти — Ельцин через два дня забрал у Горбачева с помощью посредника, маршала Шапошникова.

Как рассказывает сам Горбачев, у него с Ельциным была устная договоренность, что тот въедет в кремлевские апартаменты 30 декабря — несколько дней были даны экс-президенту на сборы. Но, приехав в Кремль утром 27 декабря, помощники Горбачева обнаружили в его кабинете Ельцина, Хасбулатова, Бурбулиса, их охранников и много пустых бутылок из-под виски. Горбачев, у которого было назначено интервью японской газете «Иомиури», в кабинет зайти отказался и больше туда не возвращался.

В начале апреля 1992 года Михаил Горбачев дал интервью французским журналистам — газете «Либерасьон» и государственному телеканалу ТФ-1. В них он достаточно резко критиковал Ельцина. На следующий день вместо «ЗИЛа» из президентского гаража приехала «Волга» без спецсвязи. Никто ничего Горбачеву объяснять не стал. Правда, год назад, также без видимых причин, спецсвязь на горбачевской «Волге» все-таки появилась.

Число охранников тоже постепенно сокращалось. Сначала их было 17, потом — 15, чуть позже забрали еще троих, а на сегодняшний день осталось только трое. Горбачев никогда не пытался выяснить причины сокращений, а Федеральная служба охраны, выделявшая охранников, комментариев не давала.

Из-за инфляции пенсия бывшего президента в 1992 году стала стремительно сокращаться. В 1993 году помощники Горбачева написали запрос в Пенсионный фонд. Из фонда пришел ответ, что индексировать пенсию Горбачева они не могут: должности президента СССР инструкциями об индексации не предусмотрено. Тогда запрос послали в администрацию президента. Ответа не дождались. На повторный запрос тогдашний глава администрации Сергей Филатов откликнулся через несколько месяцев, и 19 сентября 1994 года (к тому времени пенсия экс-президента равнялась 2 долларам) Горбачеву была установлена пенсия в 40 минимальных окладов. Несложные подсчеты показывают, что первый и последний президент СССР сегодня получает пенсию около 210 долларов.

Сам Михаил Горбачев заявил, что все проблемы президентских гарантий нужно решить очень просто: *«В Конституцию должен быть внесен пункт, который бы устанавливал пожизненное сенаторство, то есть членство в Совете федерации для уходящего президента. Тогда будут решены и материальные проблемы, и проблемы неприкосновенности».*

**Сергей КАШИН**

КАДРЫ

## І ў Беларусі ёсць маржы

*Аматараў плавання не палохаюць зімовыя маразы. Гэтага дзядзьку ў ледзяной вадзе сфатаграфаваў наш карэспандэнт у выхадны дзень на Камсамольскім возеры ў Мінску.*



# Даты і лёсы

*8 снежня*

**1863.** На першым сусветным чэмпіянаце па боксе ў Вудхерсце (Вялікабрытанія) перамог англічанін Том Кінг.

**1938.** Лаўрэнцій Берыя быў прызначаны на пост шэфа НКВД СССР.



**1943.** Нарадзіўся выбітны амерыканскі паэт, кампазітар і спявак Джым Морысан ***(на здымку)***, лідэр культавага рок-гурта *The Doors*. У 1971 г. памёр ад сардэчнага прыступу ў Парыжы, але запісы новых песень і відэакліпы з ягоным удзелам працягваюць выходзіць да гэтага часу.

**1978.** Памерла ад лейкеміі шматгадовы міністр замежных справаў, а потым прэм'ер-міністр (1969—74) Ізраіля Голда Мейр (Мабовіч). У дзяцінстве некалькі гадоў пражыла ў Пінску. У 1980 г. быў зняты папулярны тэлефільм «Жанчына на імя Голда», дзе ролю былога прэм'ера выконвала вядомая акрыса Інгрыд Бергман. Менш паспяховым быў брадвейскі мюзікл «Голда» (1977): яго давялося неўзабаве зняць з рэпертуару з прычыны рэзкага пагаршэння стану здароўя выканальніцы галоўнай ролі. Яна захварэла бранхітам, а потым і грыпам, бо на кожным спектаклі мусіла выпальваць па 17 цыгарэтаў (Голда была зацятым курцом).

**1991.** Кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расіі С.Шушкевіч, Л.Краўчук і Б.Ельцын заснавалі Садружнасць Незалежных Дзяржаваў і прапанавалі далучыцца да яе ўсім зацікаўленым у гэтым краінам.

*9 снежня*



**1608.** Нарадзіўся выбітны англійскі паэт Джон Мільтан ***(на здымку)***, аўтар паэмаў «Страчаны рай» і «Адшуканы рай». Мільтана часта параўноўваюць з Гамерам, бо ён таксама быў сляпы і дыктаваў свае паэмы для запісу тром дочкам.

**1842.** Нарадзіўся знакаміты рэвалюцыянер, тэарэтык анархізму князь Пётр Крапоткін. Ідэальным грамадствам ён лічыў «безуладны сацыялізм» (бо ўсялякая ўлада, на ягоную думку, у тым ліку рэвалюцыйная дыктатура, непазбежна выраджаецца ў самавольства і дэспатызм). Памёр пад наглядам ЧК у 1921 г.

**1884.** Левонт Рычардсан у Чыкага запатэнтаваў ролікавыя канькі.

**1886.** Нарадзіўся амерыканскі вынаходнік глыбокай замарозкі фасаваных прадуктаў харчавання Клэрэнс Бёрдсі. Гэтую ідэю ён запазычыў у эскімосаў, калі гандляваў з імі на Алясцы.



**1918.** У сям'і выхадцаў з Расійскай імперыі нарадзіўся вядомы галівудскі акцёр Керк Дуглас (Ісур Даніловіч) ***(на здымку)***, якога мы бачылі ў галоўных ролях фільмаў «Спартак», «Вікінгі», «Прага жыцця». Ягоны сын Майкл — таксама вядомы акцёр («Раман з камнем», «Прывід і Цемра»).

**1918.** Рада і ўрад БНР напярэдадні эміграцыі ў Вільню выдалі 5-ю Устаўную грамату. Народ заклікаўся ў ёй да супраціву аднаўленню ўлады бальшавікоў і да стварэння па ўсім краі «беларускіх Саветаў», падначаленых Радзе БНР.

*10 снежня*

***Міжнародны дзень правоў чалавека: 50 гадоў таму Генеральная Асамблея ААН прыняла «Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека». Дэлегацыя БССР падчас галасавання ўстрымалася.***

**1848.** Пляменнік Банапарта Луі-Напалеон быў абраны першым прэзідэнтам Францыі. Праз тры гады пасля абрання «Напалеон Маленькі» ўчыніў дзяржаўны пераварот: распусціў Заканадаўчы сход, а таксама прафсаюзы, і арыштаваў незадаволеных. А яшчэ праз год ён абвесціў сябе імператарам Напалеонам III.

**1865.** Царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і «польскага паходжання» купляць зямлю на Беларусі.

**1898.** Куба, якую падтрымалі ЗША, абвясціла сваю незалежнасць ад Іспаніі.

**1903.** Марыя Складоўская-Кюры стала першай жанчынай, што атрымала Нобелеўскую прэмію (за адкрыццё радыеактыўнасці).

**1908.** Нарадзіўся выбітны французскі кампазітар і арганіст Аліўе Месіян. У многіх творах скарыстаў падслуханыя мелодыі птушыных спеваў.

**1918.** Савецкія войскі ўвайшлі ў пакінуты немцамі Мінск. Створаны ў той жа дзень Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт абвесціў роспуск Рады БНР і загадаў арыштаваць яе членаў. Тым не менш бальшавікі ўжо мусілі лічыцца з жаданнем беларусаў стварыць уласную дзяржаву і праз тры дні абвесцілі БССР.

**1963.** Пачалася здабыча мінеральных угнаенняў на Салігорскім калійным камбінаце (цяпер аб'яднанне «Беларуськалій»).

**1988.** Памёр вынаходнік эфектыўнага сродку ад астмы *Intal* і інгалятара да яго, якія дапамаглі палегчыць і падоўжыць жыццё сотням мільёнаў астматыкаў, англійскі доктар Роджэр Алтэньен.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Неправительственная награда

*10 декабря последнюю волю Альфреда Нобеля выполнят уже в 97-й раз*

Динамит и нефть — две вещи, вызывающие отнюдь не мирные ассоциации, стали основой Нобелевской премии, призванной символизировать мир и прогресс человечества. Изобретатель динамита и совладелец нефтяных разработок в Баку, Альфред Нобель сочетал талант ученого с даром предпринимателя. К 80-м годам прошлого века он стал одним из богатейших людей Европы.

Примечательно, что, несмотря на блестящий коммерческий успех, Нобеля всю жизнь преследовал панический страх перед банкротством. Страх этот передался ему, в буквальном смысле, с молоком матери. Незадолго до рождения Альфреда в первый раз разорился его отец, и первыми воспоминаниями мальчика стали унизительные разбирательства с кредиторами.

Окончательный крах постиг финансовые начинания отца, когда Альфред был уже взрослым. Семья к тому времени жила в Петербурге. Нобель-старший, поставщик мин для нужд российской армии во время Крымской войны, после ее окончания так и не смог перевести производство на мирные рельсы. Банкротство отца наложило отпечаток на всю дальнейшую жизнь Альфреда, в своих вложениях он всегда был крайне осмотрительным. К моменту смерти Нобеля в 1896 году ему принадлежали 90 предприятий в 20 странах, состояние достигало 31 млн. шведских крон, в пересчете на современный курс порядка 120 млн. долларов.

В завещании Нобель распорядился обратить все свои акции в капитал, доходы от которого распределялись бы *«в виде премий тем, кто за последний год внес существенный вклад в прогресс человечества»*.

## Елка для Книги Гиннесса

**Самая большая рождественская елка Бразилии высотой 58 и диаметром 18 метров «выросла» на озере в Рио-де-Жанейро.**

Не исключается, что по этим показателям она войдет в книгу рекордов Гиннесса.

Елка, торжественное открытие которой состоялось 5 декабря, собрано из стальных конструкций на понтонном плоту. Издалека она смотрится красиво, а вблизи ее никто не разглядит, ибо плот находится далеко от берега. На освещение красавицы ушло 1,8 млн. разноцветных лампочек. Сказочную картину дополняют многоцветные гирлянды, которые протянуты между растущими вокруг озера сотнями деревьев. Для этого было использовано еще 2,8 млн. лампочек.

# Дом Эйнштейна возвращен наследникам

**Наследникам Альберта Эйнштейна возвращен дом ученого в Капуте под Потсдамом. Об этом сообщило потсдамское управление по вопросам недвижимости.**

Великий физик жил в этом доме с 1929 по 1932 год, до того как был вынужден эмигрировать в США, спасаясь от преследований нацистов. В 1935 году дом был передан муниципальным властям, а после войны служил гостевой резиденцией Академии наук ГДР.

Сегодня дом Эйнштейна нуждается в срочном ремонте, который обойдется по предварительным подсчетам в 800 тыс. марок. Список наследников насчитывает 12 частных лиц и организаций. Среди них дочь нобелевского лауреата, Еврейский университет Иерусалима и клиника в Принстоне.

## Идем на рекорд!

**Французские литейщики убеждены, что их изделие не будет знать равных во всем мире.**

По заказу американской компании они готовятся отлить колокол весом в 30 тонн. Его звоном в штате Кентукки намерены отметить приход 2000 года. Здесь создается юбилейный архитектурный комплекс, в который войдут 300-метровая башня, музей и торговый центр.

*«Французы думают ударить в колокол, но, похоже, брякнут в чайник»*, — пишет по этому поводу одна российская газета. Она отмечает, что вес московского «Царь-колокола», отлитого еще в XVIII веке, в шесть с лишним раз больше, чем вес будущего изделия французских мастеров. Однако французы не обращают внимания на «Царь-колокол», который никогда не звонил. Они предпочитают сравнивать свое творение с колоколом, который установлен в Кёльне и весит 24 тонны.

## Сыграем?

**Самую крупную в испанском мире колоду игральных карт представила в городе Витория местная фабрика по их изготовлению.**

Общий вес колоды превышает десять килограммов, а размер каждой карты 61 на 94 сантиметра. Тем самым фабрика, которая была основана 130 лет назад, как бы преподнесла себе подарок.

Было выпущено сто пятьдесят экземпляров гигантской колоды. Одна колода займет почетное место в музее игральных карт, который вот уже много лет действует в Витории.

## Американские продавщицы не хотят улыбаться

**В одном из калифорнийских супермаркетов пять продавщиц протестуют против обязательной улыбки и визуального контакта с покупателями.**

Они считают, что это провоцирует мужчин на «сексуальное домогательство». Пока что пять сотрудниц супермаркета подали жалобу в местные и федеральные агентства по трудоустройству, но если это не возымеет действия, они готовы идти в суд. Вынудило их на столь жесткие меры отчасти само руководство компании, которое ревностно относится к тому, с каким выражением на лице персонал обслуживает посетителей. Нередко менеджеры даже проводят «контрольные закупки», специально нанимая людей, которые проверяют продавщиц на улыбчивость.

*По материалам зарубежной прессы подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1270 Нумар падпісаны ў друк 07/12/98 (15:00) Наклад — 18.200